# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 1 (36) | 10-га студзеня 1930 году | № 1 (36)




## З Ь М Е С Т



*Усім акругкомам, рабачкомам, сельрабачкомам, бюро сэкцый спэцыялістых саюзу сельгаслесрабочых.*

## Аб вясеньняй пасеўнай кампаніі.

Прайшоўшы 1929 год быў пераломным годам у галіне магутнага росту калектывізацыі і ўздыму сельскае гаспадаркі.

1930 год павінен значна больш шпаркім тэмпам калектывізаваць сельскую гаспадарку, значна больш узьняць яе прадукцыйнасьць, яе ўраджайнасьць.

Таму, перад нашым саюзам, як асноўным, адзіным рабочым асяродку ў вёсцы па ажыцьцяўленьню дырэктыў партыі, ураду і ўсяе рабочае клясы па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ўздыму яе ўраджайнасьці ва ўсёй паўнаце стаяць наступныя асноўныя задачы:

I. Узмацніць ролю саўгасаў і ўсіх сельгаслесрабочых, батрацтва і спэцыялістых па калектывізацыі бедняцка-серадняцкіх гаспадарак з тым, каб пад калгасамі ў 1930 г. было ня менш 50 проц. агульнай пасеўнай плошчы.

2. Пашырыць пасеўную плошчу ў старых саўгасах на 11 проц.

3. Арганізаваць новыя буйныя саўгасы на плошчы каля 100.000 га.

4. Узняць ураджай у саўгасах на 30 проц., у калгасах на 25 проц. і ў бедняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарках на 20 проц., у параўнаньні з агульным сярэднім ураджаем 1929 г.

Разгарнуць плянавую работу па падрыхтоўцы рабочых кадраў праз сельскагаспадарчыя курсы.

Для поўнага выканьня гэтых задач саюз ставіць перад усімі сваімі членамі, перад усім саюзным актывам, перад усімі саюзнымі органамі, перад гаспадарнікамі і спэцыялістымі ўдарную задачу: зараз

жа пачаць падрыхтоўку да вясеньняй пасеўнай кампаніі, у ажыцьцяўленьне чаго БелРэсКа прапануе наступныя мерапрыёмствы:

### I. Па лініі саўгасаў.

1. Рабачкомам, кіраўнікам, вытворчым нарадам, ударнікам і спэцыялістым пытаньне падрыхтоўкі да вясеньняга севу паставіць у цэнтр усей работы на зімовы пэрыяд. Рабачкомы саўгасаў павінны зараз жа скласьці пляны працы вытворчых нарад, якія павінны адбіваць усе пытаньні падрыхтоўкі і правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі. Пры складаньні пляну работы вытворчай нарады кіравацца дырэктывай ад 15/III-29 г. (бюлетэнь № 4/22). Работу вытворчых нарад арганізаваць строга плянава і так, каб усе пытаньні былі добра прапрацаваны пры ўдзеле ўсяго калектыву і спэцыялістых.

2. У працягу снежня і студзеня пераглядзець у якім становішчы знаходзяцца трактары, сельска-гаспадарчыя машыны і прылады. Ачысьціць і адрэмантаваць іх, змазаць тыя, якімі зімой не карыстаюцца і паставіць у поўнай прыгатаванасьці да вясны. Падрыхтоваць так, каб у час севу іх не рэмантаваць, а выехаць у поле з іспраўнымі.

Абгаварыць плян яравога кліну, выявіць становішча азімых пасеваў, магчыма патрабуецца перасеў і цьвёрда вызначыць наколькі і за кошт чаго і як пашырыць яравы клін.

4. Выявіць, як саўгас забясьпечан насеньнем усіх культур. Гэта насеньне ачысьціць і сваечасова зрабіць заяўку на нехапаючую колькасьць.

5. Праверыць налічча ўгнаеньня-гною, попелу, мінэральных угнаеньняў і прыняць меры да поўнага і сваечасовага скарыстаньня яго і набыцьця мінэральнага ўгнаеньня.

6. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на правільную пастаноўку і разьвіцьцё жывёлагадоўлі, на павялічэньне стада. Арганізаваць добры дагляд за жывёлай. Дабіцца павышэньня ўдойнасьці стада.

7. Арганізаваць справу так, каб да вясны ні воднага саўгасу ня было без аднэй ці некалькіх ударных рабочых брыгад, якія павінны ўступіць у сацыялістычнае спаборніцтва паміж сабой і ўцягнуць у спаборніцтва ўсіх рабочых саўгасаў. Арганізаваць сацспаборніцтва паміж саўгасамі і калгасамі, саўгасамі, калгасамі і вёскамі.

8. Спаборніцтва трэба арганізаваць у напрамку сваечасовай і лепшай падрыхтоўкі сельска-гаспадарчых машын і інвэнтара, падрыхтоўкі і ачысткі насеньня, загатоўкі попелу і мінэральных угнаеньняў, падрыхтоўка жывой цягавай сілы-коняй, найбольшае пашырэньне яравога кліну за кошт пустыроў, бросавых зямель, высокіх і дрэнных сухадольных сенажацяў, сваечасовага пачатку і добраякаснага, ударнага правядзеньня самаго севу. Да вясеньняга севу саюзныя воргаы павінны дабіцца пераходу ад ударных брыгад да ўдарных саўгасаў.

9. Прапрацаваць на вытворчых нарадах пытаньне аб пераходзе на бесьперапынны тыдзень працы саўгасаў з тым, каб да вясеньняга севу ўсе саўгасы перайшлі на беспрарыўку.

10. Прапрацаваць пытаньне аб двухзьменнай працы ў вясеньні сеў і ў час уборкі ўраджаю і з пачаткам палявых работ перайсьці на 2-х зьменную работу.

11. Улічваючы тое, што добраякасьць с/г работы ў полі, работы на агародзе, садох, дагляд за жывёлай і г. д. залежыць ад сельска-гаспадарчых ведаў усяго рабочага калектыву, таму рабачкомы саўгасаў павінны ў працягу студзеня м-ца арганізаваць для рабочых саўгасаў 3-х тыднёвыя сельгаспадарчыя курсы пры кожным саўгасе, па прыкладу мінулага году.

### II. Саўгасы—калгасам.

1. Саўгасы павінны ўзяць на сябе абавязак арганізаваць вакольныя вёскі ў калгасы да пачатку вясеньняй пасеўнай кампаніі. Саўгасы павінны ўзяць шэфства над суседнімі калгасамі, дапамагаючы апошнім у распрацоўцы арганізацыйна вытворчых плянаў і плянаў капітальнага будаўніцтва.

2. Вылучыць брыгаду з рабочых саўгасаў, якой даручыць праверыць у якім становішчы знаходзяцца с/г машыны, інвэнтар і прылады ў суседнім калгасе. Прыняць меры па арганізацыі дапамогі калгасу ў сваечасовым рэмонце с/г машын, ачысткі насеньня, і г. д. Паставіць перад калгасьнікамі пытаньне аб пашырэньні імі яравога кліну.

3. Выявіць, чаго не хапае калгасу, каб добра і сваечасова правесьці вясеньні сеў. Дапамагчы калгасу атрымаць усё тое, чаго ў яго не хапае для севу—с/г інвэнтар, насеньне, мінэральнае ўгнаеньне і г. д.

4. Уцягнуць калгасы ў спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку і правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі, з саўгасамі і паміж сабой.

### III. Саўгасы і калгасы—бедняцка-серадняцкім гаспадаркам.

1. Усе саюзныя ворганы на мясцох, спэцыялістыя, батрацкі і саўгаскі актыў павінны ў працягу зімы напруджыць усе свае сілы для найбольшай арганізацыі вёсак у калектывы. У раёнах суцэльнай калектывізацыі, у вёсках і сельсаветах, дзе арганізоўваюцца калектывы, ўсе батракі і пастухі павінны быць уцягнуты ў калектывы. Ні воднага батрака і пастуха ў калектывізаваным раёне, сельсавеце ці вёсцы не павінна быць па за калектывам. Большая частка фондаў па каапэраваньні батрацтва і беднаты павінна быць скарыстана на калгаснае каапэраваньне батрацтва.

2. Канстатуючы такія выпадкі, што некаторая бедняцка-серадняцкая частка сялянства, якая яшчэ не зразумела вялікай важнасьці аб'агульваньня сродкаў вытворчасьці і жывёлы і пад уплывам варажай і контррэвалюцыйнай агітацыі кулацтва пры ўступленьні ў калгасы імкнецца збываць сваю рагатую жывёлу а таксама рабочую, нават маладняк, таму ўсе саюзныя ворганы, саюзны актыў, усе сельгаслесрабочыя, батракі і спэцыялістыя павінны мабілізаваць усе свае сілы і растлумачыць беднякам і сераднякам вялікую шкоду ім ад гэтага, растлумачыць неабходнасьць захаваньня жывёлы і маладняка. Растлумачыць, што кулацка контррэвалюцыйная агітацыя накіравана на зрыў калектывізацыі. Для гэтага арганізаваць агульныя сходы сялян, на якіх растлумачыць неабходнасьць захаваньня жывёлы і вырашчваньне маладняка, выкрываючы перад шырокімі бедняцка-серадняцкімі масамі контррэвалюцыйную дзейнасьць кулацтва.

3. Саўгасы павінны вылучыць другую брыгаду з рабочых і прымацаваць яе ў дапамогу раёным аграработнікам для [illegible] бед-няцка-серадняцкаму сялянству ў падрыхтоўцы да вясеньней сяўбы.

4. Дапамагчы ім адрэмантаваць с/г інвэнтар, ачысьціць насеньне і, дзе патрэбна, даць ім гатунковае насеньне праз абмен.

5. Дабіцца пашырэньня сялянамі яравога кліну.

6. На сходах і ў асобных гутарках растлумачыць бедняцка-серадняцкаму сялянству неабходнасьць шырокага скарыстаньня ўгнаеньняў—попелу, торфу, вапнаваньня глебы і мінэральных угнаеньняў.

7. Найбольш хутка скончыць вясеньнія работы самім, дапамагаючы калгасу, а потым разам з калгасам дапамагчы магчыма большай колькасьці бедняцкіх гаспадарак правесьці вясеньні сеў

8. Уцягнуць вёскі ў спаборніцтва паміж сабой, а таксама з саўгасамі і калгасамі.

### IV. Сельрабачкомы, рабачкомы лясніцтв і мясцкомы с/г і крэдытных таварыств—бедняцка-серадняцкім гаспадаркам.

1. Сельрабачкомам у працягу студзеня м-ца азнаёміцца з плянамі арганізацыі калгасаў па сельсавеце і плянам вясенняй пасеўнай кампаніі. Унесьці ў пляны арганізацыіі калгасаў ахоп усіх батракоў, батрачак і пастухоў, працуючых і жывучых на тэрыторыі с/савета.

2. У працягу студзеня правесьці агульныя сходы батракоў, на якіх растлумачыць ім нашы задачы па калектывізацыі бедняцка-серадняцкікіх гаспадарак і правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі імі ў напрамку: растлумачэньня беднякам і сераднякам неабходнасьці ачысткі насеньня, сваечасовай падрыхтоўкі с/г інвэнтара, загатоўкі попелу, тарфаваньня і вапнаваньня глебы, захоўваньня і разьвядзеньня жывёлы і г. д., шырокага і актыўнага ўдзелу батракоў, батрачак і пастухоў на сходах бедняцка-серадняцкай часткі сялянства пры абгаварэньні гэтых пытаньняў.

3. Вылучыць брыгаду з 3-5 таварышоў-батракоў і ў лютым м-цы праверыць ход падрыхтоўчай работы сялян да пасеўнай кампаніі. Пасьля абгляду падагуліць вынікі на сельрабачкоме і ў канцы лютага паставіць гэта пытаньне на сельсавеце.

4. Рабачкомам лясніцтв у працягу студзеня м-ца правесьці агульныя сходы лясных работнікаў, на якіх азнаёміць іх з гэтай дырэктывай і растлумачыць лясной варце і спэцыялістым іх практычны ўдзел у гэтай рабоце.

5. Кожны лясьнік і аб'ездчык разам з батракамі павінен быць штурхачом кожнай бедняцка-серадняцкай гаспадаркі па падрыхтоўцы да вясеньняга севу.

6. Усе лясьнікі і аб'ездчыкі, маючыя ўласную гаспадарку, павінны быць арганізататарамі калгасаў, павінны самі першымі ўступіць у калгас і цягнуць за сабой усіх беднякоў і серадняков вёскі.

7. Мясцкомы с/г крэдытных таварыств павінны арганізаваць справу работы сваіх апаратаў і складаў так, каб з поўнай чоткасьцю, без усялякіх затрымак забясьпечваць бедняцка-серадняцкае сялянства гатунковым насеньнем, угнаеньнем, с/г машынамі і інвэнтаром.

Паставіць пытаньне і работу так, каб кулаку ня даць ні воднага кілёграма угнаеньня, гатунковага насеньня, канюшыны і г. д.

**V. Задачы спэцыялістых.**

1. Акруговым бюро сэкцый спэцыялістых да 15/I на сваіх пасяджэньнях абгаварыць гэта пытаньне з шырокім удзелам спэцыялістых.

2. Прыняць непасрэдны ўдзел у складаньні земорганамі плянаў падрыхтоўчых мерапрыемстваў і непасрэднага правядзеньня самой пасеўнай кампаніі.

3. Усе спэцыялістыя сельскай і лясной гаспадаркі павінны ў цэнтр усёй сваёй работы па падрыхтоўцы і правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі, паставіць:

а) Арганізаваць бедняцка-серадняцкае сялянства ў калгасы;

б) Забясьпечыць поўнасьцю аграмінімум за калгасамі і бедняцка-серадняцкімі гаспадаркамі.

БелРэсКа саюзу Сельгаслесрабочых лічыць адзначаныя канкрэтныя мерапрыемствы ў гэтай дырэктыве асноўнымі першапачатковымі задачамі ўсіх сельгаслесрабочых, батрацтва і спэцыялістых, усяго саюзнага актыву, вытворчых нарад і саюзных культустаноў на зімовы і вясеньні пэрыяды ў галіне падрыхтоўкі і правядзеньні вясеньняга севу.

Саюзныя органы, баткоры і рабкоры газэты „Бел. Батрак" і другіх газэт і сьценкоры павінны рэгулярна высьвятляць праз друк рух гэтай асноўнай нашай работы па калектывізацыі і ўздыму прадукцыйнасьці нашай сельскай гаспадаркі

За старшыню БелРэсКа
Саюзу СГЛР **Шчамелёва.**

Заг. АТЭ БРК **Вяжэвіч.**

## Пастанова

**Прэзыдыуму Беларуск. Рэспубліканскага Кам. саюзу Сельгаслесрабочых ад 25/XII—29г. па пытаньні аб ходзе выкананьня вытворчых плянаў па дроваленсанарыхтоўках.**

Заслухаўшы даклады Лесбела, Лесзага, НКЗ і 3-га раёну лесанарыхтовак МББ чыгункі аб ходзе выкананьня вытворчых плянаў на 29/30 апэрацыйны год, прэзыдыум БРК пастанаўляе;

1. Адзначыць, што гаспадарчыя і саюзныя арганізацыі, а таксама органы Наркампрацы не правялі належнай работы па арганізацыі найму рабочай сілы на лесонарыхтоўкі і што дырэктывы БРК, НКПрацы і Лесбелу ў гэтай частцы мясцовымі лесонарыхтоўчымі, саюзнымі, а таксама органамі НКПрацы выконваюцца недапушчальна слаба.

2. Дзякуючы гэтаму маецца значнае недавыкананьня квартальных плянаў па лесанарыхтоўках і амаль зусім нічога ня зроблена для арганізацыі вывозкі лесаматар'ялаў, аб чым сьведчаць наступныя лічбы:

Па Лесбелу: Квартальны плян недавыкананы па загатоўцы лесаматар'ялаў на 23,8% па загатоўцы дроў на 11,4% па вывозцы лесаматар'ялаў на 73,27% па вывозцы дроў на 75%,

Па Лесзагу НКЗБ: Гадовыя пляны на 1/XII-29г. выкананы толькі на 9% па дровах і 12,4% па лесоматар'ялах. Асабліва адстаюць у выкананьні плянаў лесанарыхтовак Віцебская і Полацкая акругі. Такое становішча ні ў якой ступені недапушчальна і пагражае зрывам лесонарыхтоўчых плянаў.

3. Прыняць да ведама заяву прадстаўніка 3-га раёну лесараспрацовак МББ чыгункі тав. Граноўскага аб тым што гадовы плян па раёну выкананы па нарыхтоўках на 80% і па вывозцы на 60%.

4. Асобна адзначыць, што камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі, а таксама Калгассаюзам нічога ня робіцца ў справе прыцягненьня беднаты на лесараспрацоўкі і арганізацыі бедняцко-серадняцкіх абозаў для вывозкі лесоматар'ялаў, аб чым давесьці да ведама ЦККСУ і Белкалгассаюзу.

5, Прызнаць зусім недапушчальным што НКЗ да гэтага часу не адведзены лесасекі, што таксама адбіваецца на разгортваньні работы па лесанарыхтоўках, аб чым давесьці да ведама РСІ і прасіць аб прыняцьці ў адносіне НКЗ адпаведных мер узьдзейнічаньня.

6. Зьвярнуць ўвагу гаспадарчых лесанарыхтоўчых органаў на недапусьцімасьць такога становішча, калі пры недахопе рабочай сілы на мясцох не выкарыстоўваюцца камсамольцы, мабілізаваныя для работы на лесанарыхтоўках (Гомельская акруга).

7. У метах забесьпячэньня сваечасовага і поўнага выкананьня плянавых заданьняў па дровалесанарыхтоўках і вывозцы лесоматар'ялаў і дроў, высунуць перад гаспадарчымі арганізацыямі задачу, каб на працягу студзеня месяца 1930 г. выканаць ня менш 75% плянавага заданьня на другі квартал апэрацыйнага году як па загатоўцы, так і па вывозцы і апрача гэтага на працягу гэтага-ж часу давыканаць плянавыя заданьні на 1 квартал.

8. Для выкананьня пастаўленых задач і плянавых заданьняў правесьці наступныя мерапрыёмствы:

а) Аб'явіць месячнік па дровалесонарыхтоўках і прыцягнуць да справы лесанарыхтовак увагу савецкае грамадзкасьці, праз шырокае асьвятленьне ходу дровалесонарыхтовак у друку, праз пастаноўку пытаньняў аб ходзе дровалесонадрыхтовак на сходах у вёсках і калгасах, скарыстаўшы праходзячую кампанію перавыбароў КСУ для прыцягненьня ўвагі беднаты, сераднякоў і батрацтва да справы лесонадрыхтоўкі і для растлумачэньня важнасьці сваечасовага выкананьня пляноў лесонарыхтовак;

б) Па лініі саюзу і НКПраца да 15/I—1930г. мабілізаваць ня менш 5000 батракоў і беспрацоўных членаў саюзу на сталую работу на лесанарыхтоўках;

в) Органам НКПрацы, акруговым камітэтам саюзу, гаспадарчым арганізацыям, камітэтам сялянскае ўзаемадапамогі безадкладна разгарнуць работу па вярбоўцы на лесонарыхтоўкі рабочае сілы, у першую чаргу з батрацтва, беднаты і калгаснікаў, ні ў якім разе не дапушчаючы кулацтва з тым, каб давесьці колькасьць штодзенна працуючых на загатоўцы ня менш, як 60 тысяч чалавек;

г) Перад гаспадарчымі арганізацыямі катэгорычна паставіць пытаньне аб поўным скарыстаньні на рабоце мабілізаваных на лесонарыхтоўкі камсамольцаў, а таксама аб абесьпячэньні інструмэнтамі рабочых на лесонарыхтоўках у першую чаргу батракоў, працуючых на сталай рабоце, мабілізаваных камсамольцаў і беднату;

д) Паставіць перад ЦК КСУ і Белкалгассаюзам пытаньне аб прыцягненьні для работы па вывозцы лесоматар'ялаў ня менш, як 160 тысяч фурманак па лініі КСУ і 60 тысяч па лініі калгасаў, стварыўшы навакол гэтага мерапрыёмства грамадзкую думку бедняцка-серадняцкае часткі вёскі і калгасьнікаў, арганізоўваючы стала працуючыя чырвоныя абозы па калектыўнай вывозцы лесаматар'ялаў.

е) Пры правядзеньні вярбоўкі рабочае сілы для лесанарыхтовак і вывозкі не дапусьціць парушэньня і зрыву ўстаноўляных расцэнак, арганізуючы рашучы адпор кулацкім спробам сарваць пляны лесанарыхтовак і ні ў якім разе не дапушчаць кулацтва на работы як па загатоўцы, так і па вывозцы;

ж) Акругкомам саюзу на падставе сацыялістычнага дагавору, заключанага БРК з ЦП Дрэваапрацоўнікоў на лепшае абслугоўваньне лесанарыхтовак, разгарнуць сацспаборніцтва паміж лесанарыхтоўчымі вучасткамі навакол 100% і сваечасовага выкананьня плянавых заданьняў па вучастках, падвышэньня вытворчасьці працы на 23% і зьніжэньня сабекаштоўнасьці на 10,2%. Арганізаваць на лесанарыхтоўчых вучастках ударныя брыгады, як сярод сталых ра-

бочых, так і сярод батрацтва і беднаты, працуючых сэзона.

9. Для арганізацыі і практычнага ажыцьцяўленьня пералічаных мерапрыёмств, Прэзыдыум БРК пастанаўляе:

а) Мабіліза аць і прымацаваць ня менш, як на 2 тыдні да лесанарыхтоўчых вучасткоў 30 райінструктароў саюзу і 8 работнікаў акругкомаў саюзу.

б) Паслаць у акругі для ўдзелу ў арганізацыі паказаных мерапрыёмств 5 членаў Прэзыдыуму БРК (Вяжэвіч—Бабруйск, Эльперын —Мазыр, Вайтэнкаў—Віцебск, Башмач ікаў—Полацк, Міхасенка—Магілёў). Апрача гэтага абавязаць усіх таварышоў, якія выяжджаюць на акруговыя саюзныя і сэкцыйныя канфэрэнцыі праверыць работу саюзу ў галіне лесанарыхтовак і завострыць на канфэрэнцыях увагу саюзных арганізацый на правядзеньні мерапрыёмств, зьвязаных з правядзеньнем плянаў лесанарыхтовак.

в) Прапанаваць акругкомам на першых пленумах пасьля канфэрэнцый абавязкова паставіць даклады лесанарыхтоўчых органоў аб ходзе лесанарыхтовак ў акругах і праверыць удзел саюзных арганізацый у гэтай справе.

г) Гаспадарчым органам паслаць непасрэдна на лесараспрацоўкі ня менш, як на 3 тыдні пераважную большасьць сваіх работнікаў, а Наркомпрацы адкамандыраваць у раёны лесараспрацовак усіх вербаўшчыкаў рабочай сілы і ўсіх сельгас. інспэктараў на ўвесь студзень месяц.

д) Акругкомам саюзу разам з Аддзеламі Працы да 15/1 30г. пераглядзець склад вярбоўшчыкаў рабочай сілы і надабраць больш працаздольных работнікаў

10 Для ўзмацненьня лесанарыхтоўчага апарату мабілізаваць на сталую работу на лесанарыхтоўках 50 работнікаў Аргразьмярку прыступіць да падбору кандыдатур.

11. Лічыць недапусьцімым неяўку на пасяджэньне Прэзыдыуму прадстаўнікоў НКГандлю і Белкаапсаюзу, аб чым давесьці да ведама т. Бенэка і Старшыні Праўленьня Белкаапсаюзу.

АТЭ разам з гаспадарч.органамі праверыць становішча забесьпячэньня лесарубаў прадуктамі спажываньня. Дабіцца пасылкі дырэктыў па лініі Наркамгандлю і Б. К. Саюзу аб бесперабойным забесьпячэньні лесарубаў і аб набліжэньні каапэрацыйнага абслугоўваньня да лесарубаў, праз арганізацыю стацыянарных і перасовачных ларкоў інш

12. Культаддзелу да 5/I-1930 г. распрацаваць і разаслаць паказаньні аб арганізацыі культабслугоўваньня лесарубаў, поўнасьцю выкарыстаўшы маючыся ў лесрабачкомах сродкі культфонду

13. Аргразьмярку БРК у канцы студзеня арганізаваць масавую праверку выкананьня гэтых пастаноў і плянаў лесанарыхтовак.

*Усім акругкомам, Рабачкомам лесанарыхтовак, Сельрабачкомам саюзу сельгаслесрабочых і лесанарыхтоўчым вучасткам.*

1. Лесанарыхтоўкі займаюць вельмі важнае месца ў нашай народнай гаспадарцы. Сваечасовае выкананьне плянаў лесанарыхтовак мае вялікае эканамічнае і палітычнае значэньне (будаўнічы матар'ял, паліва, экспорт і інш.) Перад намі пастаўлена задача забясьпечыць сваечасовае і поўнае выкананьне наступнага пляну лесозагатовак па ўсім гаспадарчым арганізацыям.

**Загатаваць:**

а) Будаўнічага лесаматар'яла да 4. 500. 000 куб. мэтр. з іх у першым квартале кастрычнік-сьнежань 40%, другім квартале-55% і трэцім квартале 5%.

б) Дроў 4. 596. 000 куб. мэтраў, з іх у 1-м квартале 45%, у 2-м 30%, у 3-м 15%, у 4-м кв. 10%.

**Вывезьці:**

а) Будаўнічага ласаматар'ялу да 4.500.000 куб. мэтр., з іх: у 1-м квартале-10%, у 2-м кв.-85%, у 3 і 4-м кв,-5%.

б) Дроў 4.596.000 куб. мэтр., з іх у 1-м кв. 25%, у 2-м кв 56%, у 3 і 4-м кв. 19%.

2. Па становішчу на 20/I-29 г праграма выканана: па загатоўцы лесаматар'ялаў на 30,5% гадавога заданьня і 76,2% квартальнага, па дравам 39,8% гадавога заданьня і 88,6% квартальнага; па вывазцы лесаматар'ялаў 2,67% гадавога і 26,73 квартальнага; па дравам 6,11% гадавога заданьня і 24,5% квартальнага.

Такі марудны тэмп у гэтай адказнейшай рабоце пагражае зрывам дровалесанарыхтоўчага пляну.

Гэта тлумачыцца недапушчальна слабым выкананьнем дырэктыў БРК саюзу, Наркампрацы і Лесбелу мясцавымі лесанарыхтоўчымі, саюзнымі ворганамі і ворганамі НКПрацы ў галіне арганізацыі рабочай сілы, ў галіне ўдарнага разгортваньня дровалесанарыхтовак і вывазкі.

Таму БелРэсКа саюзу Сельгасрабочых для ажыцьцяўленьня пастановы Прэзыдыуму ад 25/XII-29 году, якая Вам паслана, і заключанага намі з саюзам Дрэвапрацоўнікаў сацдагавора прапануе:

1. Усім лесанарыхтоўчым вучасткам з 1/I-30 году аб'явіць месячнік дровалесанарыхтовак, паставіўшы перад сабой задачу, каб у працягу студзеня м-ца выканаць 75% заданьня на 2-гі кв. і давыканаць заданьні на 1-шы квартал, як па загатоўцы, так і па вывазцы дровалесаматар'ялаў.

2. Акругкомам саюзу да 15/I ажыцьцявіць дагавор па сацспаборніцтву і пастанову Прэзыдыуму і мабілізаваць пяць тысяч батракоў і беспрацоўных членаў саюзу на сталую работу па лесанарыхтоўках, а па асобных акругах мабілізаваць: а) Менскай 1250 чал., б) Мазырскай - 1000 чал., в) Бабруйскай - 750 чал., г) Гомельскай - 800 чал., д) Магілёўскай 500 чал., е) Аршанскай - 200 чал., ж) Віцебскай - 250 чал., з) Полацкай - 250 чал. не застанаўліваясь над магчымым павялічэньнем гэтай лічбы, нават і на 100%.

3) Акругкомам саюзу мабілізаваць і прымацаваць на лесанарыхтоўкі ня менш як на два тыдні райінструктароў у наступнай колькасьці па акругам: Менская 8 чал., Мазырская 5, Бабруйская 4, Гомельская 4 чал., Магілёўская, Аршанская, Полацкая і Віцебская па 3 чал., апрача таго з складу Акругкома вызначыць і прымацаваць да гэтай работы па 1-му чалавеку.

4) Да 5/I-30 г. Акругкомам склікаць спэцыяльныя паседжаньні па пытаньню аб ходу лесанарыхтовак, з удзелам ворганаў НКПрацы, гаспадарчых ворганаў, КСУ, Акркалгассаюзу, Камсамолу, Акрінспэктара Гандлю і спажывецкай каапэрацыі, на якіх намеціць канкрэтныя мерапрыёмствы па забясьпячэньню лесарубаў прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі і арганізацыі найма рабочай сілы з тым, каб па загатоўцы і вывазцы штодзённа працавала па акругам ня менш наступнай колькасьці:

| | Лесаруб. | Возч. |
|---|---|---|
| а) Менская | 15,000 чал., | 50,000 фурм. |
| б) Мазырская | 12,000 „ | 40,000 „ |
| в) Бабруйская | 9,000 „ | 33,000 „ |
| г) Гомельская | 9,600 „ | 35,000 „ |
| д) Магілёўская | 6,000 „ | 22,000 „ |
| е) Аршанская | 2,400 „ | 10,000 „ |
| ж) Полацкая | 3,000 „ | 15,000 „ |
| з) Віцебская | 3,000 „ | 15,000 „ |
| Разам. . | 60,000 „ | 220,000 „ |

5. Мабілізаваным таварышам з Акругкомаў, Райінструктарам, рабачкамам па лесанарыхтоўках разам з лесанарыхтоўчымі вучасткамі арганізаваць: сацспаборніцтва паміж асобнымі вучасткамі, пераход стала працуючых лесарубаў на беззперапынны тыдзень, арганізаваць ударныя групы брыгады па загатоўкам нямейш, як па 50-60 чал., на кожным вучастку, арганізаваць стала працуючыя чырвоныя абозы з беднякоў і серадняков па калектыўнай вывазцы лесаматар'ялаў і дроў.

6. Мабілізаваныя саюзныя работнікі разам з рабачкомамі на лесанарыхтоўках павінны да 15/I дагавор на спаборніцтва паміж нашым саюзам і саюзам Дрэвапрацоўнікаў абавязкова абгаварыць на шырокіх сходах лесарубаў растлумачыўшы ім палітычнае і эканамічнае значэньня гэтага дагавору і на гэтых-жа сходах абгаварыць дагаворы па сацспаборніцтву паміж вучасткамі.

7) Прыступіць да работы па перагляду норм выпрацоўкі, згодна § 5 сац. дагавору і скончыць гэту работу на працягу студзеня м-ца з тым, каб шляхам перагляду норм уплатненьня рабочага

дню і рацыяналізацыі працэсаў загатоўкі (разьдзяленьне працы, мэханізацыя) і поўнага скарыстаньня драўніны забясьпечыць павышэньне вытворчасьці працы на 23% і зьніжэньне сабекаштоўнасьці на 10,2%.

8) Прарабы і рабачкомы лесанарыхтоўчых вучасткаў павінны кожную дэкаду 10,20,30 ліку кожнага месяца рэфармаваць вышэйстаячыя саюзныя і гаспадарчыя ворганы аб тым: 1) колькі працуе лесарубаў, 2) колькі працуе возчыкаў-фурманак 3) колькі арганізована чырвоных абозаў па вывазцы, 4) колькі арганізавана ўдарных брыгад і чалавек у іх: 5) колькі працуе батракоў і камсамольцаў, якія вучасткі ўступілі ў сацспаборніцтва паміж сабой, 7) наколькі % выканан плян вучастка гадовы і квартальны асобна па загатоўцы і вывазцы.

Зьвёсткі, як у саюзныя, так і ў гаспадарчыя ворганы пасылаць за подпісамі адміністрацыі вучастку і рабачкому.

Апрача таго інфармаваць аб пастаноўцы забясьпечаньня лесарубаў прадуктамі спажываньня і інструмэнтамі, шырока інфарміруя праз друк усю грамадзкасьць аб тым, як выконваюцца пляны лесанарыхтовак і якія перашкоды маюцца ў гэтай справе.

За старшыню БРК Саюзу СГЛР
**Аскерка**

Нам. заг. АТЭ Саюзу
**Калядзенка.**

## Дагавор

**Па сацспаборніцтву паміж Беларускім Рэспубліканскім Камітэтам саюзу сельгаслесрабочых і Цэнтральным Праўленьнем саюзу дрэваапрацоўнікоў па выкананьні прамфінпляну Лесбелу на 1929/30 год, як па лесанарыхтоўках так і па прадпрыемствах.**

Для пасьпяховага выкананьня прамфінпляну Лесбелу на 1929/30 год па лесанарыхтоўках і прадпрыемствах Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу Сельгаслесрабочых і ЦП саюзу Дрэваапрацоўнікоў бяруць на сябе абавязкі па выкананьні наступных мерапрыемств:

### Па лініі саюзу Сельгаслесрабочых.

1. Арганізаваць з беспрацоўных членаў саюзу і батракоў сталы кадр лесарубаў у колькасьці ня менш 15% патрэбнай рабочай сілы на лесанарыхтоўках, гета значыць 5.000 чалавек.

З гэтага кадру лесарубаў утварыць ударныя брыгады ня меньш, як у 1000 чалавек.

2. Забясьпечыць прыцягненьне на работу па лесанарыхтоўках выключна батракоў і беднякоў, арганізоўваючы з лепшай часткі іх ударныя брыгады на кожным лесанарыхтоўчым вучастку.

3. Павялічыць працягласьць работы лесарубаў на лесанарыхтоўках у зімовы пэрыяд з 60 рабочых дзён да 100 рабочых дзён, а таксама ўвесьці на лесанарыхтоўках сярод сталых кадраў рабочых бесьперапынны рабочы тыдзень.

4. Арганізаваць сацспаборніцтва паміж вучасткамі і саюзнымі арганізацыямі на лесанарыхтоўках навакол 100% выкананьня праграмы лесанарыхтовак (праграма і тэрмін выкананьня праграмы дадаюцца), для чаго давесьці плян лесанарыхтовак да кожнага рабачкому, дэталёва азнаёміўшы з ім усіх лесарубаў, як праз агульныя сходы, так і вытворчыя нарады.

5. У працягу сэзону на лесанарыхтоўках перагледзець нормы выпрацоўкі па кожным асартымэнту і праз уплатненьня рабочага дню, мэханізацыі лесараспрацовак, рацыянальнае скарыстаньне драўніны, перагляд норм выпрацоўкі і больш поўнае скарыстаньня адходаў, забясьпечыць павышэньне вытворчасьці працы на 23% і дабіцца зьніжэньня сабекошту прадукцыі на 10,2%.

### Па лініі саюзу Дрэваапрацаўнікоў.

1. Забясьпечыць прадпрыемствы 100% выкананьнем праграмы па Трэсту, Лесбелу ў прыватнасьці павялічэньня росту вытворчасьці працы па лесапіленьню на 24%, па фанэры - на 12%, па вырабу мэблі - на 40%.

2. Забясьпечыць зьніжэньне сабекошту па лесапільнай вытворчасьці на 10,2 %, фанернай - 10,2 %.

3 Сваечасова пераглядзець нормы выпрацоўкі і расцэнкі пад кутом поўнага выкананьня прамфінпляну на 1929-30 год.

4. Для сталай вытворчай і культурнай сувязі рабочых заводаў і фабрык з рабочымі лесанарыхтовак, арганізаваць шэфства асобных прадпрыемств над асобнымі лесанарыхтоўчымі вучасткамі.

5. Арганізаваць ударныя брыгады па ўсіх прадпрыемствах і пасылку іх для садзейнічаньня ў рабоце на лесанарыхтоўках.

6. Устанавіць сыстэматычнае кіраваньне работай ударных брыгад на прадпрыёмствах, для чаго на працягу году склікаць дзьве Ўсебеларускія нарады ўдарнікаў і па два разы ў кожнай акрузе, а таксама ўсе выезды на прадпрыёмствы, як работнікаў ЦП, так і Акраддзяленьняў скарыстоўваць для вывучэньня ходу работ ударных брыгад і зьнішчэньня недахопаў.

7. Правесьці шырокую культвыхаваўчую работу ў галіне поўнага зьнішчэньня на прадпрыемсвах прагулаў, рвацкіх настрояў і іншых не нармальнасьцяў.

По даручэньні Прэзыдыуму БЕЛРЭСКА
Саюзу Сельгаслесрабочых-
Член Прэзыдыуму **Аскерка**.

Па даручэньні Прэзыдыуму
ЦП саюзу Дрэваапрацоўнікоў-
Старшыня ЦП **Сыпчанка**.

Менск 20/XII-1929 г.

Дадатак да пратаколу паседжаньня
Прэзыдыуму БРК саюзу СГЛР № 24
п. 11 ад 15/XII-29 г.

## Пастанова

### прэзыдыуму БРК па дакладу аб становішчы і пэрспэктывах разьвіцьця новага буйнага саўгасу „імя 10-ці годзь-дзя БССР“.

Заслухаўшы даклад тав. Рамановіча аб становішчы і пэрспэктывах разьвіцьця першага ў БССР новага буйнага саўгасу „Імя 10-ці годзьдзя БССР“, Прэзыдыум БРК адзначае недапушчальныя адносіны да будаўніцтва і разгортваньня гэтага саўгасу з боку гаспадарчых і плянавых органаў, у выніку чаго вытворча-арганізацыйны плян саўгасу да гэтага часу не складзены, тэмп будаўніцтва гаспадарчых і жыльлёвых будынкаў, а таксама будынкаў пад культурна-бытавыя ўстановы (клюб, школа, лазьня, сталовая, амбуляторыя, яслі) зусім не адпавядае нават таму слабаму тэмпу разгортваньня паляводства, які маецца, што пагражае зрыву работ ў с/гаспадарчай кампаніі 30 году, не забясьпечвая належнага захаваньня ўраджаяў і прыводзіць да безгаспадарчасьці.

Да гэтага часу не разьмяжаваны функцыі паміж Кіраўніцтвам Калфонду „Мар'іна“ і Дырэкцыяй саўгасу. Дрэнныя жыльлёвыя і бытавыя ўмовы перашкаджаюць укамплектаваньню саўгасу кваліфікаванымі с/гаспадарчымі рабочымі і спэцыялістам. Усё гэта тлумачыцца тым, што да гэтага часу ня вызначаны ўстановы і асобы, якія нясуць поўную адказнасьць за будаўніцтва новых саўгасаў і, у прыватнасьці, саўгасу 10-ці годзьдзя БССР.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум БРК пастанаўляе:

1. Не згадзіцца з намечаным тэрмінам (4 гады) канчатковага разгортваньня саўгасу, „Імя 10-ці годзьдзя БССР“. Прызнаць зусім магчымым скараціць тэрмін канчатковага разгортваньня і асваеньня саўгасам, адведзенных плошчаў да 2-х год, а па лініі прамысловага будаўніцтва да 3-х год. У адпаведнасьці з гэтым рашуча паставіць пытаньне аб пераглядзе пляну фінансаваньня і капіталаўкладаньняў гэтага саўгасу і аб па скарэньні асушыцельных работ і раскарчоўкі на адведзеных пад саўгас плошчах.

2. Усю адказнасьць за работу па будаўніцтву і разгортваньню гэтага саў-

гасу і наогул за будаўніцтва новых саўгасаў на адведзяных для гэтага плошчах ускласьці на Белсельтрэст, забясьпечыўшы яго патрэбнымі спэцыялістамі, захаваўшы за НКЗ агульнае кіраваньне.

3. Белсельтрэсту ў бліжэйшы час распрацаваць канчатковы арганізацыйны плян і вызначыць напрамак разьвіцьця саўгасу і ў адпаведнасьці з гэтым прыступіць да складаньня праэктаў і тэхнічных каштарысаў гаспадарчага, прамысловага, жыльлёвага і культурна-бытавога будаўніцтва саўгасу. Недапушчаючы адставаньня тэмпу будаўніцтва, асабліва гаспадарчых і жыльлёвых будынкаў, ад тэмпу разгортваньня саўгасу, забясьпечыўшы своечасовую загатоўку будаўнічых матар'ялаў.

4. Дырэкцыі саўгасу разам з Белсельтрэстам распрацаваць плян разьмяркаваньня сядзібаў і тэхнічных прадпрыемств на тэрыторыі саўгасу. У будаўнічым сэзоне 1930 году прыступіць і к канцу ўборачнае кампаніі скончыць пабудову гаспадарчых будынкаў з тым, каб забясьпечыць захаваньне ўраджаю с/гаспадарчай кампаніі 29/30 году, а таксама пабудаваць жыльлёвыя будынкі, выходзячы з ліку патрэбнае рабочае сілы на 1930 і 31 гады забясьпечыў далейшае разгортваньне будаўніцтва.

5. У гэтым-жа будаўнічым сэзоне (30 год) распачаць пабудову рабочага клюбу, пабудаваць лазьню, амбуляторыю, школу, сталовую, яслі, прыцягнуўшы да гэтае справы сродкі НКАсьветы, НКЗдраву і каапэрацыйных арганізацый. Для забясьпечаньня культработы сярод рабочых на час да сканчэньня пабудовы клюбу-адрамантаваць да 1/V-30 году летні клюб.

6. АТЭ, Бабруйскаму Акругкому саюзу і Белсельтрэсту прыняць захады па забясьпечаньню саўгасу „10-ці годзьдзя БССР" кваліфікаванымі сельгаслесрабочымі і трактарыстамі. Аграсэкцыі разам з Сельтрэстам да I/I-30 году падшукаць высока-кваліфікаванага спэцыялістага культуртэхніка на пасаду памоцніка дырэктара і наогул падабраць кадр патрэбных спэцыялістых.

7. АТЭ і Бабруйскаму Акругкому саюзу ў бліжэйшы час упарадкаваць забесьпячэньне рабочых саўгасаў прадуктамі, перадаўшы гэту справу на дагаворных пачатках спажывецкай каапэрацыі, паставіўшы пытаньне аб уключэньні снабжэньня саўгасаў ў плян Бабруйскага Акргандлю.

8. НКЗБ разьмяркаваць функцыі паміж Кіраўніцтвам Калфонду і Дырэкцыяй саўгасу, перадаўшы трактарную калёну ў поўнае распараджэньне саўгасу.

9. Пры разьмяркаваньні трактараў, завозімых ў БССР, у першую чаргу павінны здавальняцца патрэбы новых буйных саўгасаў, прычым Сельтрэсту паставіць пытаньне аб забесьпячэньні саўгасу гусенічнымі трактарамі, якія даюць найлепшы эфэкт працы на балотных глебах.

10. Увайсьці ў плянавыя органы з пытаньнем аб уключэньні ў плян работ Галоўшосу на 30 год пабудовы дарог, якія злучаюць саўгас „10-ці годзьдзя БССР" з бліжэйшымі чыгуначнымі станцыямі і эканамічна-адміністрацыйнымі пунктамі. Белсельтрэсту ўвайсьці з прапановай ў Праўленьня Заходніх Чыгунак, аб дазволе станцыі „Трушкі" адгружаць грузы, якія ідуць ў адрэс саўгасу.

11. Лясному Кіраўніцтву НКЗБ і Лесбелу вырашыць пытаньне аб забясьпячэньні саўгасу будаўнічымі лесаматар'ялам і апалам з бліжэйшых ваколічных лясьніцтв.

12. Дырэкцыі с/г, Белсельтрэсту з прыцягненьням НДІ с/гаспадаркі вырашыць пытаньне аб больш мэтазгодным скарыстаньні гною на глебах саўгасу і аб яго рэалізацыі.

13. Для ўзмацненьня прафкультмасавае работы сярод рабочых саўгасу правесьці наступнае:

а) Арганізаваць асобны рабачком для абслугоўваньня рабочых саўгасу.

б) Аргаддзелу і Бабруйскаму Акругкому саюзу выканаць пастанову Прэзыдыуму БРК аб падбору кандыдатуры на пасаду платнага старшыні рабачкому.

в) Прадугледзець у каштарысе рабачкому сродкі на ўтрыманьне платнага культработніка.

г) т.т. Башмачнікаву і Асерка распрацаваць практычныя мерапрыемствы па разгортваньні культмасавай работы сярод рабочых (кіно, радыё, газэты, бібліатэка і інш.), забясьпечыўшы правядзеньне гэтых мерапрыемстваў сродкамі.

14. На паседжаньні Прэзыдыуму разглядзець арганізацыйны плян саўгасу, плян фінансаваньня і капіталаўкладаньняў, а таксама пляны гаспадарчага, прамысловага і жыльлёвага будаўніцтва саўгасу. У лютым месяцы 1930 году заслухаць інфармацыю Сельтрэсту Бабруйскага Акраддзяленьня аб выкананьні гэтае пастановы.

15. Прасіць НК РСІ правесьці з удзелам саюзу ўсебаковую праверку работы гаспадарчых і плянавых органаў па будаўніцтву саўгаса „10-ці годзьдзя БССР".

## ПРАГРАМА

### Вытворча-тэхнічных курсаў для с/г рабочых саўгасаў.

Курсы разьлічаны на 18 навуч. дзён, пры 4 х гадз. занятках у дзень, усяго на 72 гадз

#### I. Агульны-палітычны цыкл. (14 гадзін).

1. Галоўныя задачы Камуністычнай партыі і савецкай улады на весцы і ў сельскай гаспадарцы . . . . . . . . . . . . 4 гадз.
2. Шляхі рэканструкцыі с/г на сацыялістычных падставах. Разбор і прапрацоўка 5 гадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва . . 4 гадз.
3. Роля саўгасаў, савецкіх рабочых і батрацтва ў рэканструкцыі с/г і ў правядзеньні палітычна-гаспадарчых кампаній на весцы. 2 гадз.
4. Калектывізацыя вёскі: галоўныя віды калгасаў і як практычна праводзіць працу па арганізацыі калгасаў. . . . . . . 4 гадз.

#### II. Арганізацыйна-вытворчы цыкл (30 гадзін).

1. Разбор арганізацыі свайго саўгасу ў асноўным і па асобных галінах. Пэрспэктывы разьвіцьця . . . . . . . . . 4 гадз.
2. Арганізацыя працы і зьдзельшчыны ў саўгасах . . . . . 3 гадз.
3. Рацыяналізацыя вытворчасьці. . . . . . . . . . . 3 гадз.
4. Зьніжэньне сабекошту і палепшаньне якасьці прадукцыі . . . 2 гадз.
5. Аб вытворчых нарадах у саўгасах. . . . . . . . . 2 гадз.
6. Сацыялістычнае спаборніцтва. . . . . . . . . . 2 гадз.
7. Азнаямленьне з тэхнічнымі прадпрыемствамі і іх працай. (дзе яны маюцца) . . . . . . . . . . . . . 4 гадз.
8. Практычныя заняткі па вывучэньні с/г машын-разбор, складаньне і дробны рэмонт іх (трактар, жнеярка, касілка, малатарня і інш.). 10 гадз.

Пасьля гэтых 2-х цыклаў, у залежнасьці ад напрамку саўгасу праводзіцца, або цыкл расьлінаводоўчы, або жывёлагадоўчы.

#### III. Цыкл жывёлаводства. (28 гадзін).

1. Кароткая характэрыстыка маючайся жывёлы ў саўгасе (вартасьць і недахопы) і характэрыстыка тых тыпаў жывёлы, якімі ў пэрспэктыве пажадана замяніць ці папоўніць маючуюся жывёлу (з ліку адпавядаючых натуральным і інш. надворным умовам раёну) (коні, буйная рагатая жывёла, оўцы, сьвіньні і інш.) . . . 2 гадз.
2. Характэрыстыка маючыхся і патрэбных кармаў, спосабы загатоўкі і хаваньня іх (грубыя кармы, сіласаваньне, загатоўка сена, гуменны корм, клюбні і корні, зернавы корм, астаткі ад вытворчасьці і інш. кармы) . . . . . . . . . . . 2 гадз.
3. Ацэнка кармоў па іх пажыўнасьці (паняцьце аб складаных частках кармоў, паняцьце аб кармавой адзінцы, паняцьце аб складаньні норм, корм патрымліваючы і прадыкцыйны) . . . . 2 гадз.
4. Кормаздабываньне культура-корань-клубняплодаў. Сеяньне травы. Палепшаньне сенажаці і пасьбішч . . . . . . . 4 гадз.
5. Утрыманьне і ўход за жывёлай (стайлавыя і вольныя памяшканьні, разьмеркаваньне часу пры ўходзе ў сувязі з кармленьнем,

вадапой), чыстка жывёлы і памяшканьняў, уход за жывёлай (малочная жывёла, рабочая, адкармліваемы і інш) ,абыходжаньне з жывёлаю пры ўходзе за ею і ў час працы, пасьбішча жывёлы . 2 гадз.

6. Карыстаньне жывёлай: узрост жывёлы, прыгоднай для карыстаньня: а) для размнажэньня, б) для працы. в) для іншых мэтаў (дойныя каровы, шэрстная прадукцыя, адкорм сьвіней). Правілы дойкі (падрыхтоўка да даеньня, дойка, запіс удояў, працэжваньне малака і малочных прадуктаў . . . . . . . . . 4 гадз.
7. Размнажэньне жывёлы (злучка, цяжарнасьць і роды). Вырашчваньне рабочага, племянога і прадукцыйнага маладняка. Скорасьпеласьць і познасьпеласьць. . . . . . . . . . . 4 гадз.
8. Сувязь паміж паляводствам і жывёлаводствам. Жывёлаводства, як крыніца рабочае сілы для паляводства Жывёлаводства, як крыніца ўгнаеньня. Паляводства і яго кармавыя магчымасьці севазварот, лугі і пасьбішчы. . . . . . . . . . . 2 гадз
9. Бэканізацыя . . . . . . . . . . . . . . . 2 гадз.
10. Хваробы жывёлы . . . . . . . . . . . . . 2 гадз.
11. Пераапрацоўка малака . . . . . . . . . . . 2 гадз.

### IV. Цыкл расьлінагадоўчы (паляводства, садоўніцтва і гародніцтва) (30 гадзін).

1. Як жыве і чым жывіцца расьліна (семя, корань, ліст) . . . . 2 гадз.
2. Глеба і яе натура. Што такое глеба і падглеба. З чаго складаецца глеба. Значэньне складаных частак і галоўнейшыя ўласьцівасьці глебы. Характарыстыка глебы данага раёну . . . . 2 гадз.
3. Апрацоўка глебы. Для чаго апрацоўваем глебу (накапленьне вільгаці і пажыўнасьць матэрыі). Пахата і пахатныя прылады. Баранаваньне і прылады для яго. Лушчэньне глебы і прылады. Укатваньне і каткі. Апрацоўка цаліны. Апрацоўка пара і віды пара. Апрацоўка глебы пад яравыя. . . . . . . . . 2 гадз.
4. Угнаеньне глебы. Што трэба расьлінам для спажываньня. Поўнае і няпоўнае угнаеньне. Гной, яго з:хаваньне, вывазка на поле, запашка. Зялёнае ўгнаеньне. Кампост. Мінэральнае ўгнаеньне (фасфарытнае, кіслае, азотнае і інш.). Торп. . . . . . . 2 гадз.
5. Насеньне і пасеў. Якім зярном сеяць, каб атрымаць добры ураджай. Як атрымаць добры пасеўны матар'ял. Падрыхтоўка насеньня да пасеву, ачыстка і пратручваньне . . . . . . . 2 гадз.
6. Сорныя травы і меры барацьбы з імі. Якія бываюць сорныя расьліны. Размнажэньне сорных расьлін. Спосабы барацьбы з сорнымі расьлінамі . . . . . . . . . . . . . . 2 гадз.
7. Чаргаваньне расьлін на палёх Асаблівасьці спажываньня розных с/г. расьлін. Уплыў розных с/г. расьлін на склад глебы і яе натуру. Адносіны розных с/г. расьлін да шкоднікаў і хваробам расьлін і меры барацьбы з імі. Найбольш правільнае чаргаваньне расьлін. Севазварот гаспадаркі і тыпічныя севазвароты для данага раёна . . . . . . . . . . . . . . . . . . 2 гадз-
8. Культура бульбы і кармавых клубнеплодаў. Значэньне караньклубнеплодаў у севазвароце: а (бульба, сорт, месца ў севазвароце. Апрацоўка глебы. Пасадка (глыбіня, задзелка, гушчыня). Уход. Прыборка, Хаваньне, Хваробы; б) кармавыя буракі. Угнаеньне. Апрацоўка глебы. Месца ў севазвароце. Пасеў. Уход. Хаваньне. Сорт. Адбор семяньнікоў; в) турнэпс; г) кармавая бручка; д) кармавая морква; е) значэньне караньплодаў у разьвіцьці прадукцыйнага жывёлаводства . . . . . . . . . . . . 2 гадз.

9. Ільнаводзтва: а) глеба для ільну, яе апрацоўка і угнаеньне; б) выбар насеньня для пасеву, спосабы для захаваньня і ачыстка яго; час і спосабы пасеву ільну (задзелка насеньня і колькасьць яго на дзесяціну); г) уход за ільном за час росту; д) уборка ільну з поля. Час уборкі. Аддзяленьне насенных галовак "рыбленьне". Вымалачваньне ільнянага насеньня. Сушка і захаваньне ільнянага насеньня; е) апрацоўка ільну. Мочка, расеньне і апрацоўка ільну на валакно; а) страеньне ільнянага сьцябла; б) выдзяленьне валакна з сьцябла ільну; адзнакі сьпеласьці мачэнца. Вясеньняя мочка; мяцьцё трапаньне ільну; канчатковая абробка ільну і і ўпакоўка . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3 гадз.
УВАГА: Толькі ў ільнаводных гаспадарках.
10. Спробная праца ў савгасах і вынікі . . . . . . . . . 1 гадз.
11. Выраблене зернавых расьлін (жыта, пшаніца, авёс, ячмень, стасоўна да ўмоў данага раёну . . . . . . . . . 2 гадз.
12. Палепшаньне лугоў: павярхоўнае, карэннае, лугавое насеннаводзтва . . . . . . . . . . . . . . . . 2 гадз.
13. Уход за пладовым садам. Апрацоўка глебы. Угнаеньне. Прарэжваньне. Удаленьне сушы. Жыравыя пабегі. Павялічэньне і аслабленьне росту. Аднаўленьне і павялічэньне плоданашэньня. Ачыстка ствала. Лячэньне пашкоджаньняў, рашчэпаў, дуплеў. Барацьба са шкоднікамі і хваробамі пладовых дрэваў . . . . . . Уборка і хаваньне ўраджаю . . . . . . . . . . 2 гадз.
14. Гародніцтва. Плодазьмен у гародзе. Угнаеньне. Парнікі. Сорт гародніны. Ягаднікі. Барацьба са шкоднікамі і хваробамі гародніх культур. Уборка і хаваньне ураджаю. . . . . . . . . 2 гадз.

*Рабачкомам і кіраўнікам саўгасаў.*

Адбіткі Акркамітэтам Саюзу.

## Аб дапамозе Рудметальгандлю ў зборы мэтала-лому.

Напруджанае становішча с балянсам горных мэталаў патрабуе неабходнасьц і ўсямернага павялічэньня збору мэталулому, збор якога мае вялізарную значнасьць у справе своечасовага і плянавага забезпячэньня сыравінай нашай мэтарульгічнай прамысловасьці.

Выходзячы з гэтага, БелРэсКа саюзу СГЛР і Белсельтрэст прапануюць В/ зараз жа прыняць меры да дапамогі Рудмэтальгандлю ў зборы вышэйпамянёнага лому, для чаго неабходна Вам прарабіць наступнае:

### Кіраўнікам саўгасаў.

Праверыць які маецца ў саўгасе мэтала-лом (чаны, катлы ад б. крахм., вінакураных і іншых заводаў, лёкамабілі, станкі, прышоўшыя ў нягоднасьць асобныя часткі жнеярак, плугоў, сечкарняў, касілак, грабілак і іншых с/г. машын і інвентару і наогул увесь маючыся ў саўгасе і навокал яго жалезны лом) і все гэтыя выяўленыя речы мэтал-лому здаць у бліжайшыя пункты Рудмэтальгандлю пры мясцовых крэдытных таварыствах, з якімі і патрэбна зьвязацца ў ваўсёй гэтай рабоце.

### Рабачком саўгасаў.

Пытаньне аб зборы метала-лому паставіць на абгаварэньне агульных сходаў. ці вытворчых нарад і шырока растлумачыць рабочым аб значэньні збору лому. Кожны рабочы павінен прыняць самы актыўны ўдзел і гэтым самым дапамагчы мэталургічнай прамысловасці ў забесьпячэньні яе сыравінай. Усе маю-ыяся прышоўшыя ў нягоднасьць і немагчымыя да скарыстаньня ў гаспадарцы розныя часткі плугоў, барон, касілак, грабілак, жнеяк, чаны, катлы і інш. павінны быць выяўлены як у самым саўгасе, так і ў бліжэйшых вёсках на працягу 2-х тыдняў і здадзены на склады Рудметальгандлю пры мясцовых крэдітных таварыствах.

Для больш пасьпяховага выкананьня гэтага мерапрыёмства рабачкомам неаб-

ходна павесьці работу ў напрамку стварэньня добрахвотных груп (5-10 чалавек.) якія і павінны практычна заняцца работай па выяўленьню і сваечасовай здачы мэтала-лому.

Аб правядзеньні гэтай работы і аб колькасьці выяўленага і здадзенага жалезнага лому (у пудох) паведаміць БелРэсКа саюзу не пазьней 15-га студзеня.

Старшыня БелРэсКа Саюзу СельГасЛесРабочых **Вайтэнкаў**

Дерэктар Сельтрэсту **Хрысанфаў**

## Якімі кнігамі і блянкамі трэба карыстацца ў прафсаюзных органах у 1930 годзе.

### У нізовых саюзных ячэйках.

(Рабачкомах, сельрабачкомах, мясцкомах, камслужах, прафупаўнаважаным і інш.):

1. *Каштарыс форма № 10.* Складаецца на год. Прысылаецца на зацьверджаньне ў вышэйстаячы саюзны орган у 2-х экзэмплярах, не пазьней 5/XII да пачатку новага году.

2. *Касавая ведамасьць форма* № 16.

3. *Прыходныя і расходныя ордэры.* У сельрабачкомах замест прыходных ордэраў карыстаюць квітанцыйную кніжку, форма № 4.

4. *Кніга вучоту працдагавораў на батракоў і пастухоў* (для сельрабачкомаў).

5. *Кніжка „здач“ чл. узносаў* і іншых грошай у вышэйстаячы саюзны орган.

6. *Ведамасьць па збору чл. узносаў*, форма № 2, якая пасьля пераводу па іх грошай па „здачы“ падшываюцца ў справах рабачкому і нікуды не пасылаюцца.

7. *Фінсправаздача форма № 17* Складаецца чатыры разы ў год: першая справаздача за 3 м-цы (студзень-сакавік), другая справаздача за 6 м-цаў (студзень-чэрвень), трэцяя справаздача за 9 м-цаў (студзень-верасень) і чацвертая справаздача за год (студзень-сьнежань), Высылаецца ў вышэйстаячы саюзны орган у адным экзэмпляры, не пазьней 5 студзеня, 5 красавіка, 5 ліпеня і 5 кастрычніка.

8. *Насьценная фінсправаздача.* Вывешваецца ў рабачкоме штомесячна на відным месцы.

9. *Інвэнтарная кніжка* (якая будзе выпушчана ў 1930 г.).

### У акруговых камітэтах н-саюзу.

1. Каштарыс форма № 66.
2. Касавая ведамасьць форма № 57.
3. Прыходныя і расходныя ордэры, альбо штодзённыя зваротныя ведамасьці.
4. Кніжкі „паведамленьня“ аб выданых марках.
5. Асабовыя карткі кожнаму рабачкому па выданых марках і атрыманых грошах.
6. Фінсправаздача форма № 58.
7. Дапаможныя кнігі па ўзаемаразьліках, інвэнтару і інш. (форма простых канторскіх кніг).
8. Фінсправаздача форма № 17 для складаньня сводкі фінсправаздачы нізовых ячэек і форма № 10 для складаньня сводак каштарысаў нізовых ячэек раз у год.

### Па касах узаемадапамогі.

1. Статут касы.
2. Членскія білеты.
3. Касавая кніга.
4. Кніга асабовых рахункаў.
5. Анкета (заява) для ўступленьня ў касу.
6. Фінсправаздача.

БРК паведамлае, што ўсе пералічаные вышэй кнігі і блянкі рабачкомы павінны атрымліваць ад свайго акруговага камітэту, а рабочкому Менскай акругі—ад БРК саюзу.

Акругкомы павінны выпісваць кнігі і блянкі для сваіх рабачкомаў ад БРК саюзу, за выключэньнем кніг, форм і блянкаў кас узаемадапамогі, якія трэба выпісваць непасрэдна ад ЦК н-саюзу.

Адк. скарбнік **Аскерка.**

Бухгалтар **[illegible]**

## Усім Рабачкомам, Райінструктарам, Акругкомам Саюзу СГЛР.

Пасьпяховае выкананьне задач, стаячых перад дзяржавай па практычнаму будаўніцтву сацыялізму магчыма толькі пры максымальным згуртаваньні шырокай пралятарскай грамадзкасьці навокол гэтых задач. У гэтай справе набывае вялікае значэньне друк, які сыстэматычна высьвятляе палітычнае і эканамічнае становішча і задачы нашага Саюзу ССР, мабілізуе ўвагу навокол практычных задач, якія стаяць перад дзяржавай і пралятарскай грамадзкасьцю.

Асабліва важнае значаньне мае друк для сельгаслесрабочых і батрацтва, перад якімі ў сучасны момант стаіць непасрэдная задача актыўнага, непасрэднага ўддзелу ў сацыялістычнай рэканструкцыі вескі.

БелРесКа саюзу Сельгаслесрабочых настойна рэкамандуе ўсім організацыям н/саюзу наступныя выданьні, якія значна дапамогуць актыву і радавой масе сяброў нашага саюзу ў практычным вырашэньні задач стаячых перад імі:

### Газэты:

1. „Правда“, выданьне ЦК УсеКП, штодзённая газэта. Цана за год—10 р.
2. „Зьвязда“, выд. ЦК КП(б)Б, штодз. газэта з штотыдневым дадаткам „Профрух“. Кошт: 1 год—9 р. 75 к., 6 м-цаў —5 р.
3. „Бел. Батрак“, выд. БРК Саюзу СГЛР. Выходзіць раз у пяць дзён. Цана на год—1 р.
4. „Батрак“. Выд. ЦК н-саюзу. Выходзіць 3 разы у тыдзень. Падп. цана на год—1 р. 50 к., на 6 м-цаў 75 к.
5. „Лясны Рабочы“, Выд. ЦК н-саюзу.
6. „Сельско-хозяйственная газэта“. Выд. СНК Саюзу ССР. Штодзенная газэта, сыстэматычна асьвятляючая ўсі пытаньні рэканструкцыі сел. гаспадаркі, працу парт. і проф. організацый на вёсцы. Падп. цана на год—10 р. на 6 м-цаў—5 р. 50 к.
7. „Камсамольская Правда“. Штодзённая газэта. Выд. ЦК ВЛКСМ.
8. „Чырвоная зьмена“. Выд. ЦК ЛКСМБ на год 3 р. 30 к.
9. „Безбожнік“ Выд. Т-ва „Безбожнік“. Штотыднёвая газэта. Цана на год —2 р. 40 к.
10. „Красная Звезда“. Выд. ПУР'а Штодзённая газэта. Цана на м-ц—1 р.
11. „Рабочий и искуство“. Падп. цана на год 2 р. 75 к. Вых. штотыдзень.

### Часопісі:

1. „Деревенский Коммунист“. Выд. ЦК УсеКП. Цана на год—3 р. на 6 м— 1 р. 50 к.
2. „Батрачка“. Выд. ЦК н-саюзу. Цана на год—1 р. 20 к.
3. „Батрацкая профшкола“. Выд. ЦК Саюзу СГЛР. На год—4 р. 50 к., на 6 м.—2 р. 50 к.
4. „На досуге“. Выд. ЦК Саюзу СГЛР. На год—1 р. 20 к.
5. „Деревенский Безбожник“. Выд. МК УсеКП На год—4 р., на 6 м-цаў— —2 р.
6. „Искры науки“. Выд. газэты „Гудок“. Цана на год—4 р. 80 к., на 6 м.— 2 р. 60 к.
7. „Радио всем“. Выд. Т-ва Прыхільнікаў Радзіе. На год—6 р.
8. „Лапоть“. Выд. „Крест. газеты“ На год—3 р. 50 к., на 6 м.—1 р. 75 к.
9. „Трезвость и культура“ Выд. Т-ва па барацьбе з алкагалізмам. Падп. цана на год—1 р., 6 м-цаў—50 к.
10. „Авиация и химия“. Выд. ЦС АСО Авіахім. Штомес. часопіс. Цана на год—3 р., на м-ц—25 к.
11. „Учись сам“. Выд. „Крест. газеты“ Галоўпалітасьветы і ЦК ВЛКСМ. Штомес. часопіс. На год—3 р. 10 к., 6 м-цаў—1 р. 70 к.
12. „Сам себе агроном“. Выд. „Крест. газеты“. Штомесячн. часопіс. Цана на год—4 р., на 6 м-цаў—2 р. 10 к.
13. „Совхоз“. Выд. „Новая Деревня“. Вых. 2 р. у м-ц. Цана на год—4 р., на 6 м-цаў—2 р.
14. „Культурная революция“. Выд. УсеЦСПС. Вых. 3 р. у месяц, з дадаткамі „Материал для клубной сцены“ и „В помощь профпропагандисту“.
15. „Пионер для деревни“ и „Вожатый“: Выд. Маладая Гвардыя.
16. „Деревенский Театр“. Выд. „Крест. газеты“. Штомес. часопіс. На год—6 р., на 6 м-цаў—3 р. 25 к.
17. „У дапамогу партвучобе“. Орган АПАД ЦК і МК УсеКП.

а) Сэрыя 11 — „Каляктывізацыя сельскае гаспадаркі“ 4 вып. цана 1 р.
б) Сэрыя 18 — „Антырэлігійны курс“. 4 вып. Цана—1 р. 50 к.
в) Сэрыя 20 —„Бягучая палітыка для вёскі“. 10 вып. Цана 1 р. 25 к.

Акрамя выпіскі газэт і часопісаў для рабачкомаў, чыталень, чырвоных куткоў і клюбаў—усім організацыям нашага саюзу, у першую чаргу Рабачкомам неабходна шырока разгарнуць падпіску на выданьні сярод сяброў нашага саюзу і батрацтва, для чаго неабходна на бліжэйшым пасяджэньні рабачкомаў паставіць пытаньне аб распаўсюджваньні газэт і часопісаў, абгаварыць і намеціць канкрэтны плян гэтай работы і вызначыць упаўнаважанага для распаўсюджваньня газэт і часопісаў. Было-б надзвычайна карысным разгарнуць па гэтай працы соцспаборніцтва, выклікаўшы іншыя рабачкомы.

Адказны Сакратар БРК
Саюзу СГЛР **Шчэмялёва**

Заг. Культаддзелам **Башмачнікаў**.

*Усім рабачкомам, сельрабачкомам месцкомам і прафупаўнаважаным*

## „Аб прысылцы фінансавых справаздач“ за 1929 год.

БелРэсКа Саюзу напамінае аб тым, што не пазьней 15/1-30-г. неабходна прыслаць у акруговыя комітэты саюзу, а нізовыя ячэйкі Менскай акругі ў БРК саюзу фінансавую справаздачу за 1929 год, па блянку Ф№ 17. Абавязкова запаўняць графу аб неплацельшчыках членскіх узносаў. Да акуратных рабачкомаў будуць прыняты меры ўзьдзенічаньня з аглашэньнем у прафсаюзным друку.

Адказны скарбнік **Аскерка**

Бухгальтар **Гарохаў**.

*Усім саюзным ячэйкам.*

У газэце „Бел. Батрак“ ад 16/XI-г.г. № 47 (60) была зьмешчана аб'ява аб праверцы работы апарату Беларускага Рэспубліканскага Камітэту. Зараз ужо выдзелены рабочые брыгады. Праверку работы апарату скончылі і ў сучасны момант праходзіць пэрсанальная праверка кожнага работніка.

Усе саюзныя ячэйкі (рабачкомі і сельрабачкомы) павінны прыслаць свае заўвагі, а таксама сабраць іх ад абслугоўваемых членаў саюзу, аб рабоце апарату БелРэсКа саюзу і аб асобных яго работніках.

Увесь матэр'ял па рабоце апарату БелРэсКа а таксама і на асобных работнікаў-прысылаць у камісію па чыстцы на імя т. **Аскерка**. (Менск, Дом Працы, БелРэсКа.)

Адказны сэкратар Бел. Рэсп. Кам-ту
**Шчамелёва.**

Кіраўнік спраў **Юшкевіч**.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў**.
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч**.

Галоўлітбел № 780. Зыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома.